www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

№ 12 (4161)

10 лютага 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗА ПРАХАДНОЙ

## На «Нафтане» будзе новы генеральны дырэктар

*Генеральны дырэктар наваполацкага прадпрыемства Уладзімір Траццякоў адпраўлены ў адстаўку.*

Каментаваць кадравыя змены на заводзе «Народнай Волі» не сталі. Вядома, што Уладзімір Траццякоў быў вызвалены ад займаемай пасады ў чацвер падчас прыезду кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Качанавай.

– *На жаль, цяперашняму кіраўніцтву завода не ўдаецца аператыўна вырашаць некаторыя пытанні, якія тычацца мадэрнізацыі такога важнага прадпрыемства, як «Нафтан»,* – сказала высокапастаўленая чыноўніца.

Як раней паведамляла «Народная Воля», эканамічныя цяжкасці на заводзе паўсталі з-за абмежаванняў нафтавых паставак з Расіі. Паведамлялася, што на прадпрыемстве нават магчымы скарачэнні.

Часова выконваць абавязкі генеральнага дырэктара ААТ «Нафтан» будзе Сяргей Алтухоў – намеснік генеральнага дырэктара па вытворчасці.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ПАДЗЕЯ

## З 8 па 12

**У беларускай сталіцы ўрачыста адкрылася Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш, якая будзе дзейнічаць па 12 лютага.**

**Тры тысячы квадратных метраў – плошча павільёна, дзе размясціўся кніжны кірмаш. На стэндах сотні выданняў – розных па тэматыцы і жанрах – з 31 краіны свету.**






БЛІЦ

*Днямі старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі **Лідзія Ярмошына** заявіла Радыё Свабода, што не выключае правядзення адначасова з чарговымі мясцовымі выбарамі рэферэндуму аб зменах у Канстытуцыю.*
*Сама Ярмошына лічыць, што з Асноўнага закона павінна быць выдалена норма аб адкліканні дэпутатаў, якая практычна не дзейнічае і праз якую няма магчымасці змяніць мажарытарную выбарчую сістэму на змешаную альбо партыйную. Скасавала б Ярмошына і права на вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты працоўнымі калектывамі. Таксама кіраўнік ЦВК выступае за скасаванне сельскіх і пасялковых Саветаў і выказваецца за тое, каб на мясцовых выбарах абіралі кіраўнікоў мясцовых адміністрацый.*

## На ваш погляд, якія пытанні трэба вынесці на ўсенародны рэферэндум?

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА,**
**старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

– Сёння праблема не ў тым, якія пытанні трэба выносіць на рэферэндум, а ў тым, што, як бы беларусы ні галасавалі, вынік адзін. Як у показцы: "Што ні рабі, атрымаецца КПСС".

Можна практыкавацца, хто лепш сфармулюе пытанне, але навошта?..

**Юрась ГУБАРЭВІЧ,**
**старшыня руху "За Свабоду":**

– У свой час рух быў адным з ініцыятараў кампаніі "Народны рэферэндум" і прапаноўваў шэсць пытаняў для агульнага абмеркавання. Цягам двух гадоў мы шчыльна камунікавалі з людзьмі, экспертамі, ладзілі "круглыя сталы" і змаглі ацаніць, якія пытанні для беларусаў сапраўды з'яўляюцца найбольш важнымі.

Вельмі добры водгук атрымала наша прапанова вынесці на рэферэндум пытанне, звязанае з пажыццёвым прэзідэнцтвам, вярнуць у Канстытуцыю ранейшую норму, згодна з якой адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны. Шырокай падтрымкай таксама карысталася пытанне аб падкантрольнасці насельніцтвам мясцовай улады – наўпроставыя выбары кіраўнікоў адміністрацый, а не іх прызначэнне. Дарэчы, пра гэта і Ярмошына казала. І я, між іншым, пагаджаюся з яе прапановай наконт таго, што трэба змяніць мажарытарную выбарчую сістэму на змешаную альбо прапарцыянальную.

На мой погляд, яшчэ адно пытанне, вартае вынясення на ўсенародны рэферэндум, – гэта адмена смяротнага пакарання.

**Георгій АТАМАНАЎ,**
**сакратар ЦК КПБ па арганізацыйна-партыйнай і прававой рабоце:**

– На мой погляд, наша грамадства саспела для таго, каб былі ўнесены змены ў выбарчую сістэму і мы перайшлі з мажарытарнай на змешаную. Гэта паспрыяе і партыйнаму будаўніцтву ў краіне і ажывіць парламент, у якім з'явяцца фракцыі. Людзі будуць бачыць праграмы і разумець розніцу паміж партыямі, мець большае ўяўленне, за каго яны галасуюць. Пры мажарытарнай сістэме гэта складана.

**Лідзія ХМЯЛЕЎСКАЯ,**
**пенсіянерка:**

– Пытанняў можна задаць шмат. Напрыклад, сёння народ вельмі хвалюе, ці трэба нам падатак на дармаедства. Але ж ці будзе ўлада сапраўды з намі раіцца? Правядзенне плебісцыту актуальна ў тых краінах, дзе няма сумневу ў празрыстасці падліку галасоў.

**Мікола СТАТКЕВІЧ,**
**экс-кандыдат у прэзідэнты, старшыня аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычный партыі (Народная Грамада):**

– Рэферэндум варта праводзіць у краінах, дзе ёсць сумленны падлік галасоў, сумленная агітацыя і дзе грамадства мае працяглы вопыт дэмакратыі. У сувязі з тым, што ў сучаснай Беларусі гэтыя фактары адсутнічаюць, то і праводзіць рэферэндум не мае сэнсу.

А што тычыцца пытання, я сфармуляваў бы яго вельмі проста: "Ці падтрымліваеце вы адхіленне Аляксандра Лукашэнкі ад улады?" Упэўнены, што станоўчы адказ на яго набярэ канстытуцыйную большасць, але ж, вядома, лічбы напішуць іншыя…

**Анатоль ШУМЧАНКА,**
**старшыня савета РГА "Перспектыва":**

– Пры ўмове, што на рэферэндуме будзе ўлічаны і сумленна падлічаны кожны голас, я вынес бы на народнае абмеркаванне такое пытанне: «Ці згодны вы скасаваць пасаду прэзідэнта і перайсці да парламенцкай рэспублікі?»

**Сцяпан ПАЎЛОВІЧ,**
**токар-наладчык станкоў з праграмным упраўленнем:**

– Актуальных пытанняў у грамадстве шмат. Вельмі балюча людзі ўспрынялі павелічэнне страхавога стажу, з якога да таго ж выкраслілі дэкрэтны адпачынак, службу ў войску і г.д. Прымушаюць людзей працаваць даўжэй, але пенсія ад гэтага не павялічыцца. Аднак наўрад ці тут трэба раіцца з народам, хутчэй гэта пытанне для эканамістаў.

Што тычыцца ўсенароднага абмеркавання, то, на мой погляд, трэба вярнуцца да таго, з чаго пачыналі ў 1990-я: можа, Беларусь усё ж такі павінна быць парламенцкай рэспублікай, а не прэзідэнцкай. Трэба, каб у краіне рашэнні прымаў не адзін чалавек, які можа памыляцца... Вось такое пытанне, напэўна, можна выносіць на ўсенародны рэферэндум.

**Уладзімір МАЦКЕВІЧ,**
**метадолаг:**

– У адсутнасці нармалёвага выбарчага працэсу, адсутнасці свабоды слова, свабоды сходаў і ў гэтым сэнсе свабоды мыслення я лічу любы рэферэндум шкодным. Ніякіх разумных і важных пытанняў у такой сітуацыі на ўсенароднае абмеркаванне выносіць немагчыма. Усё, аб чым трэба запытвацца ў людзей, электарату, спачатку неабходна абмяркоўваць у сродках масавай інфармацыі, на публічных мерапрыемствах. І толькі пасля працяглага і адкрытага абмеркавання раіцца з людзьмі. А так гэта махлярства і маніпуляцыі.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ,**
**сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":**

– Пры сённяшняй уладзе і ЦВК я ўвогуле не праводзіў бы ніякіх рэферэндумаў. Гэта бессэнсоўна. Усе плебісцыты, якія былі праведзены цяперашнім кіраўніцтвам Беларусі, не прызнаны міжнароднай супольнасцю. Паводле меркавання незалежных назіральнікаў, вынікі іх сфальсіфікаваны.

Калі б галасы лічыліся, першым пытаннем, на мой погляд, павінна быць адстаўка Лукашэнкі і правядзенне свабодных і справядлівых выбараў усіх узроўняў. Гэта самае галоўнае – вярнуць Беларусь у прававое поле, а тады ўжо можна выносіць на ўсенароднае галасаванне пытанне аб смяротным пакаранні і іншыя.

**Распытвала Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЭКСКЛЮЗИВ

Александр КОСИНЕЦ:

## «У меня всё отлично, всё хорошо…»

*«А вы слышали, что бывший глава Администрации президента Александр Косинец находится под домашним арестом?» – с таким вопросом позвонил в редакцию «Народной Воли» один из читателей, сославшись на некие «авторитетные источники». Официальных новостей о том, что в отношении Косинца возбуждено уголовное дело, не было. Поэтому мы на всякий случай решили проверить эту информацию.*

Напомним, что Александр Косинец был освобожден от должности 5 декабря минувшего года. Одни аналитики называли это кадровое решение предсказуемым, другие – неожиданным. Версий случившегося тоже было немало.

Одни утверждали, что экс-глава Администрации президента Александр Косинец пойдет на повышение, и прочили ему место премьер-министра. Другие оценивали потенциал чиновника скромнее и пересаживали его на должность министра здравоохранения или министра труда.

Третьи вообще строили версии о теории большого заговора и номенклатурном перевороте.

Стоит заметить, что в эшелонах власти к Александру Николаевичу относились по-разному. Александр Лукашенко не раз давал Косинцу весьма лестные характеристики.

«*Косинец – далеко не дурак*, – говорил глава государства, назначая его главой Администрации президента. – *Ученый человек, доктор наук, протопавший эту жизнь от села, знающий эту жизнь как никто. Думаю, для главы администрации это хорошо. Далее ты можешь быть выше, или президентом, или премьер-министром – если у тебя соответствующие качества*».

Однако из-за непростого, резковатого характера главу Администрации недолюбливали. Александр Косинец никогда не водил дружбы с более-менее влиятельными чиновниками из президентского окружения. Бывало, смело шел против всех. «*Я сам по себе*», – объяснял он своим друзьям.

В бытность председателем Витебского облисполкома Косинец запомнился своими, мягко говоря, нестандартными идеями. Например, предлагал в центре Витебска построить «Диснейленд» (примерная стоимость проекта – около 100 миллионов долларов). Выступая перед депутатами, обещал запретить секс по телефону.

Рассказывают, что незадолго до появления указа об отставке Александр Косинец решил собрать большое совещание в Администрации президента. Назначил его на субботу, пригласил чиновников высочайшего уровня! Когда один из помощников доложил об этом президенту (а вдруг заговор?), совещание было отменено. И сразу после выходных инициативному чиновнику вручили указ об освобождении от должности главы Администрации.

«Народная Воля» разыскала бывшего главу Администрации президента и прямо спросила, на каком он сейчас небе.

**– Александр Николаевич, как ваши дела? Рассказывают, будто вы под домашним арестом…**

– *(Громко смеется.)* Глупости самые натуральные! У меня все отлично, все хорошо. Следите за новостями, читайте прессу, смотрите телевизор, скоро все узнаете…

**– Значит, все-таки готовитесь к новой должности?**

– Конечно!

**– Просто уже было столько указов, когда большой чиновник отправляется в отставку с формулировкой «*в связи с переводом на другую работу*», а потом будто растворяется в атмосфере. Один из ярких примеров – бывший генеральный прокурор Олег Божелко…**

– Нет, у меня все нормально.

**– А как можете объяснить возникновение таких странных слухов о себе?**

– Отвечу вам цитатой из Владимира Высоцкого: «*Вот ходят слухи, что не будет больше сплетен, и ходят сплетни, будто слухи запретят…*»

Честно говоря, до меня такие слухи не доходили, поэтому даже не знаю, как и что тут комментировать…

**– Позвольте тогда уточнить: с чем была связана ваша отставка?**

– Вот когда выйду на работу, тогда вам все расскажу, хорошо?

**– Всю правду?**

– Конечно! Первое интервью – вам. А всем остальным скажите, чтобы больше ничего такого про меня не сочиняли.

**– Александр Николаевич, а вы сами в отставку попросились или?..**

– Я же вам сказал: обо всем расскажу в интервью, когда выйду на работу.

**– Тогда до встречи. Ну и желаю, чтобы у вас никогда не было проблем с правоохранительными органами.**

– Спасибо! У меня и не должно их быть. А все эти сочинения на вольную тему – глупости самые натуральные.



**Александр Косинец и известный бизнесмен, владелец табачной фабрики и сети гипермаркетов «Корона» Павел Топузидис.**
Фото Виктора ГИЛИЦКОГО (kp.by).

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

### Косинца ждут в Академии управления при президенте?

*Не так давно Александр Лукашенко весьма негативно оценил деятельность Академии управления при президенте и фактически дал команду сменить ректора.*

«*Если нынешнее руководство Академии управления не понимает, что делать, его нужно немедленно заменить*», – эта цитата разлетелась по всем информационным агентствам.

В кулуарах Академии управления ходит упорный слух о том, что новым ректором может стать именно Александр Косинец. Доктор наук, профессор, до прихода в большую политику был ректором Витебского медуниверситета. Одним словом, будет чувствовать себя в этой должности как рыба в воде!

Кстати, ректорами Академии управления почти всегда были доктора наук. Исключение – лишь нынешний глава **Марат Жилинский**, он кандидат исторических наук. Жилинский руководит президентским вузом чуть больше трех лет.

Дольше всех ректором Академии управления был доктор экономических наук **Анатолий Шрубенко** – около 8 лет. Доктор технических наук **Анатолий Морозевич** возглавлял вуз почти 7 лет. Доктор исторических наук **Анатолий Бригадин** был ректором Академии управления чуть больше года, доктор технических наук **Петр Кухарчик** – два года, доктор юридических наук **Станислав Князев** – четыре.

**Марина КОКТЫШ.**

СТОП-КАДР

## Расійскага блогера Аляксандра Лапшына экстрадзіравалі ў Баку

Аляксандр Лапшын быў затрыманы ў Мінску яшчэ ў ноч на 15 снежня 2016 года па просьбе азербайджанскага боку. Паколькі ён адначасова з'яўляецца грамадзянінам Ізраіля, Расіі і Украіны, то пытанне аб экстрадыцыі ў Баку высвятлялася як па дыпламатычных каналах, так і праз суд.

Азербайджанскія ўлады абвінавачваюць А.Лапшына ў тым, што ён некалі незаконна перасек мяжу іх краіны, паколькі перад гэтым наведваў непрызнаную Нагорна-Карабахскую Рэспубліку. Яму пагражае пакаранне да васьмі гадоў пазбаўлення волі. Але гэта будзе вырашаць ужо суд Азербайджана.



**Ніна АЎСЕЙЧЫК.**

ЧУЛІ?

## Што ставяць у віну Кныровічу?

Падобна на тое, што кіраўніку групы кампаній «Сармат-СТІ» давядзецца сур'ёзна раскашэліцца. Следства інкрымінуе яму артыкул Крымінальнага кодэкса, звязаны з ухіленнем ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. А гэта можа закончыцца не толькі канфіскацыяй маёмасці, але і пазбаўленнем свабоды ад трох да сямі гадоў.

Аляксандр Кныровіч вядомы не толькі як бізнесмен, але і як медыйны блогер. У яго крытычны погляд на многія дзеянні ўрада, на адсутнасць у Беларусі незалежнай прававой сістэмы.

**Людміла КУЗЬМІНА.**

СТАЛА ВЯДОМА

## Заробкі бюджэтнікаў вырастуць

Савет міністраў прыняў пастанову, у адпаведнасці з якой будуць павялічаны заробкі бюджэтнікаў і тых работнікаў, якія прыраўнаваны да іх. Памер дадатковай аплаты плануецца вызначаць з улікам павышаючага каэфіцыента. Вырашаць, які каэфіцыент устанавіць для таго ці іншага супрацоўніка, застаецца правам кіраўніка арганізацыі. Пры гэтым павышэнне заробкаў адбудзецца толькі за кошт эканоміі сродкаў.

**Эдуард МАЛЬЦАЎ.**

СУД

## На дапрацоўку...

*Учора ў судзе Ленінскага раёна Магілёва прайшло папярэдняе пасяджанне па крымінальнай справе супраць зняволенага магілёўскай турмы №4 – праваабаронцы **Андрэя Бандарэнкі.***

Экс-кіраўніка праваабарончай арганізацыі, якая займалася маніторынгам месцаў зняволення, у 2014 годзе прызналі вінаватым у хуліганстве, злосным хуліганстве і асабліва злосным хуліганстве ў дачыненні да трох грамадзян і асудзілі на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Бягучы тэрмін пакарання ў Бандарэнкі заканчваецца 31 сакавіка гэтага года, аднак, калі яго прызнаюць вінаватым па крымінальнай справе, якая заведзена супраць яго за злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, ён можа атрымаць яшчэ да двух гадоў зняволення.

Учора суддзя прыняла рашэнне накіраваць справу на дапрацоўку. Калі будзе наступнае пасяджэнне, не вядома.

АБУРАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

# І цяля забілі, і вінаватай зрабілі!

Здавалася б, ну колькі можна пісаць пра аднаго і таго ж чалавека? За апошнія гады на старонках "Народнай Волі" прозвішча былой настаўніцы гісторыі з вёскі Талька Пухавіцкага раёна **Наталлі Ільініч** фігуравала мноства разоў. То яе беспадстаўна звольнілі з працы, то яна трапіла ў складаную жыццёвую сітуацыю, то на яе лёс махнулі рукой мясцовыя чыноўнікі-бюракраты... Адным словам, выпрабаванне за выпрабаваннем.

Ведаючы пра змаганне Наталлі з сістэмай і паглыбіўшыся ў акалічнасці чарговай справы, хочацца ўсклікнуць: адчапіцеся ад жанчыны! Колькі можна здзекавацца з яе?! Але эмоцыі, як кажуць, да справы не прышыеш. Таму – факты.

Летам мінулага года ў Тальцы адбылося дарожна-транспартнае здарэнне. Машына забіла Наталліна цяля. Бывае ж такое – на ціхай вясковай вуліцы, дзе гадзінамі не сустрэнеш ніводнага чалавека і не праедзе ніводны аўтамабіль, раптам усё сышлося: дзве машыны з'ехаліся насупраць хаты Ільініч у той самы момант, калі Наталля з памагатымі – суседкай і яе дачкой – заганяла ў свой двор карову з цялём. Усе ўдзельнікі дарожнага руху добра бачылі адзін аднаго. Наталля нават паказвала шафёру адной з машын жэстамі, каб ён спыніўся, пакуль карова і цяля не зойдуць у двор. І ён спыніўся, але, калі жывёлы параўняліся з аўто, незразумела чаму рэзка засігналіў. Спалохаўшыся, цяля кінулася пад другую машыну, якая, як сцвярджае Наталля, рухалася па вясковай вуліцы з немаленькай хуткасцю і не збаўляла яе, хоць вадзіцель бачыў на дарозе жывёлу. Вынік: пашкоджанае аўто і забітае цяля.

У любой аўташколе слухачоў вучаць: гукавы сігнал у населеным пункце кіроўца можа і павінен даць толькі ў адной сітуацыі – каб папярэдзіць ДТЗ. У дадзеным выпадку падобна на тое, што сігнал якраз-такі справакаваў дарожнае здарэнне. Але начальнік ДАІ Пухавіцкага раёна **Аляксандр Сугак**, разбіраючы ДТЗ, прызнаў вінаватай у ім... Наталлю і наклаў штраф 5 базавых велічынь. Такое рашэнне на ўзроўні сенсацыі. Спакон веку ў вёсцы існуе правіла: шафёр, які не знізіў хуткасць і забіў жывёліну (курыца не лічыцца), павінен выплаціць шкоду. А тут атрымліваецца: Наталліна цяля забілі, дык яна яшчэ і вінаватая. Разбірацца, ці праўмерна сігналіў адзін з кіроўцаў і на якой хуткасці рухаўся другі аўтамабіль, ці мог яго вадзіцель пазбегнуць наезду на жывёліну, ён, выходзіць, не палічыў патрэбным. Аўтатэхнічная экспертыза прызначана не была. Высновы, як вынікала з пастановы, рабіліся паводле дадзеных рэгістратара, усталяванага ў пашкоджанай у ДТЗ машыне.

Зразумела, што пагадзіцца з такім рашэннем Ільініч не магла і падала скаргу ў суд. 5 верасня 2016 года суд Пухавіцкага раёна адмяніў пастанову начальніка ДАІ і накіраваў справу назад у ДАІ на вывучэнне.

31 кастрычніка ўжо новы кіраўнік раённай аўтаінспекцыі – выконваючы абавязкі начальніка **Павел Чыжоў** прыняў такое ж рашэнне, што і ягоны папярэднік. Але Наталля зноў абскардзіла яго ў судзе. Суд адмяніў чарговую пастанову начальніка раённай аўтаінспекцыі і зноў вярнуў справу ў ДАІ.

Гэтым разам ёю займаўся ўжо трэці кіраўнік ведамства – новы начальнік ДАІ Пухавіцкага раёна **Яраслаў Жук**. 30 студзеня 2017 года Жук вынес сваё рашэнне: вінавата адна Наталля, "оставила животное на дороге".

Днямі Наталля Ільініч зноў падала скаргу ў суд. Трэцюю! Ізноў звяртае ўвагу на тое, што не ўсе абставіны ДТЗ даследаваны ўсебакова, поўна і аб'ектыўна. Напрыклад, нічога не зроблена для таго, каб устанавіць асобу вадзіцеля, які сігналіў. У прыватнай размове Наталля кажа, што прызнала ў ім аднаго з тых, хто прымаў рашэнне па гэтай справе. Дык, можа, вось дзе сабака закапаны?!

На нядаўняй "Вялікай размове з Прэзідэнтам" Аляксандр Лукашэнка кінуў у бок журналістаў папрок: маўляў, пішаце страшылкі, а калі падначаленыя прэзідэнта выязджаюць з праверкамі, то не заўсёды могуць знайсці герояў публікацый. Маўляў, няма такіх людзей, няма такіх сітуацый. Пра тое, што аўтары маюць права на псеўданім, – ні слова.

Наталлю Ільініч доўга шукаць не трэба, у Тальцы яе ўсе ведаюць. І справа яе, што называецца, у адкрытым доступе. Даручыце, Аляксандр Рыгоравіч, з усім разабрацца па законе! Бо гісторыя, якая на першы погляд быццам выедзенага яйка не вартая, пры дэталёвым разглядзе параджае шмат пытанняў. Нават суд пагаджаецца, што не ўсе акалічнасці справы вывучылі даішнікі, але тыя ўпарта гнуць сваю лінію: вінавата адна Наталля. Чаму не знойдуць кіроўцу аўтамабіля, які падаў гукавы сігнал? Чаму яго дадзеныя не пазначаны ў пратаколе, які складаўся на месцы ДТЗ? Чаму не ўлічваюць паказанні сведкі – суседкі Наталлі? Памыляецца ці не Ільініч – за рулём сядзеў інспектар ДАІ?

У 2010 годзе Наталля Ільініч ужо пацярпела ад свавольства нашай сістэмы. Удзел у выбарчых кампаніях, збор подпісаў за апазіцыйных кандыдатаў, прысутнасць на Плошчы 19 снежня 2010-га, сяброўства ў Партыі БНФ, ад якога не адраклася па запатрабаванні чыноўнікаў ад адукацыі, каштавалі ёй любімай працы ў школе. Пад якія б правільныя з пункту гледжання закона фармулёўкі ўлада тады не завуаліравала яе звальненне, усім было зразумела: Наталлю выціснулі са школы з-за грамадзянскай актыўнасці. Зачынілі дзверы школы назаўсёды перад настаўніцай, якая сваім прафесіяналізмам і шматгадовай працай заслужыла словы падзякі ад вучняў і іх бацькоў, павагу калег, шматлікія ганаровыя граматы. Як выжывала Наталля 6 гадоў, пакуль не выйшла на пенсію, толькі ёй вядома. Працы ў вёсцы не было, пляча, на якое можна было б абаперціся, таксама. І сёння для яе выплаціць штраф памерам больш за 100 рублёў праблема – лішняй капейкі пры пенсіі у 280 рублёў не мае. Тым больш калі яе канчаткова абвінавацяць, то ёй прыйдзецца заплаціць за рамонт пашкоджанага аўто. Кіроўца, што зрабіў наезд і забіў цяля, ужо даслаў прэтэнзію з патрабаваннем аплаціць рамонт ягонай машыны – 1719 рублёў 66 капеек. Для таго каб выплаціць 100 рублёў штрафу і 1719,6 за аўто, нават каровы не хопіць. Як кажуць, у старца кій адбіраюць.

Падчас "Вялікай размовы з Прэзідэнтам" А.Р.Лукашэнка многа гаварыў пра справядлівасць. Дык вось як быць са справядлівасцю ў дадзеным выпадку? Як рэагаваць на тое, што даішнікі, па сутнасці, не толькі не спачуваюць чалавеку, які ні ў чым не вінаваты, а больш за тое – ігнаруюць судовую пастанову?

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Чый дэпутат Ганна Канапацкая: выбаршчыкаў 97-й акругі ці Аб'яднанай грамадзянскай партыі?

Такое пытанне ўзнікла невыпадкова. У рэдакцыйнай пошце з'явіўся ліст з подпісам: "Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганна Канапацкая". Усім вядома, што ў Беларусі выбары адбываюцца пакуль толькі па мажарытарнай сістэме, гэта значыць па акругах, а не па партыйных спісах. Таму спадарыня Канапацкая з'яўляецца дэпутатам электарату акругі №97 г.Мінска, а не Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Скажаце, дробязь і ці трэба звяртаць на гэта ўвагу? Трэба. І калі пад зваротам стаіць подпіс дэпутата вышэйшага заканадаўчага органа ўлады, то ўсе нюансы павінны адпавядаць сапраўднасці.

Спытаеце: а пра што ідзе гаворка ў лісце, напісаным, хутчэй за ўсё, не самой Ганнай Канапацкай, а яе памочнікамі, актывістамі той самай Аб'яднанай грамадзянскай партыі? Вось яго тэкст:

*"Зараз, пакуль ідзе абмеркаванне навага Кодэкса аб адукацыі, у вас ёсць магчымасць пазмагацца за свае інтарэсы. Я гатова змагацца разам з вамі за якасць і эфектыўнасць адукацыі, за інтарэсы простага настаўніка, выкладчыка, гатова адстойваць вашы прапановы, ініцыятывы пры галасаванні па дапаўненнях і папраўках да Кодэкса аб адукацыі.*

*11 лютага з 11.00 да 14.00 у СШ №11 (г.Мінск, вул. Асаналіева, д.14) будзе працаваць тэматычная грамадская прыёмная па тэме «Сітуацыя ў сістэме адукацыі Рэспублікі Беларусь».*

Сустракаць вас буду я, Ганна Канапацкая, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі, мае памочнікі, а таксама эксперты – экс-прарэктар БДУ А.В.Паўлаў і экс-прарэктар ЕГУ, член Балонскага грамадскага камітэта У.А.Дунаеў.

Запіс па тэлефоне: **(+ 375 29) 966-18-18**.

Прыходзьце, вам ёсць што сказаць!»

Што ж, абвестка актуальная. Як тут не падтрымаць ініцыятыву маладой дэпутаткі, якая гатова змагацца разам з шараговымі грамадзянамі "за якасць і эфектыўнасць адукацыі, за інтарэсы простага настаўніка, выкладчыка"! Слова за вамі, выбаршчыкі!

**Рыгор АМЕЛЬЯНОВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Пры дапамозе нямецкага пасла Петэра Дэтмара выйшла кніга аб тым, як беларусы змагаліся з нацызмам

У мінскім выдавецтве "Альфа-кніга" ўбачыла свет кніга, прысвечаная малавядомым старонкам беларускай ваеннай гісторыі, а менавіта ўдзелу беларусаў у складзе Польскага войска ў вызваленні Італіі і Галандыі ад нацыстаў падчас Другой сусветнай вайны – "Забытыя героі. Жаўнеры з Беларусі ў Другім польскім корпусе і Першай польскай асобнай паветрана-дэсантнай брыгадзе".

Аўтар кнігі – вядомы беларускі гісторык, кандыдат гістарычных навук **Ігар Мельнікаў**. Наклад новага выдання невялікі – 300 асобнікаў, але што важна: кніга ўбачыла свет пры дапамозе амбасадара ФРГ у Беларусі Петэра Дэтмара.

*– Можа, пра гэта распавядаць нясціпла,* – заўважае Ігар Мельнікаў, – *але факт: спадар Дэтмар сам зацікавіўся маёй працай. Ён чытаў мае папярэднія кнігі, быў на прэзентацыях іншых маіх работ, разам з сям'ёй наведаў экскурсію "Мяжа ля Заслаўя" і вырашыў дапамагчы з выданнем "Забытых герояў". Паводле яго меркавання, гэтая тэма важная і для Германіі. Немцы не адракаюцца ад свайго мінулага.*

У новай кнізе Ігар Мельнікаў прааналізаваў гісторыю бітвы пад Монтэ-Касіна і аперацыі "Маркет-Гардэн" у Галандыі ў 1944 годзе, звярнуў увагу на біяграфіі звычайных жаўнераў, якія нарадзіліся ў Беларусі і ўдзельнічалі ў згаданых баявых дзеяннях. Акрамя таго, у гэтым выданні ўпершыню ў Беларусі апісаны асаблівасці ўніформы, рыштунку і ўзбраення жаўнераў Другога польскага корпусу і Першай польскай паветрана-дэсантнай брыгады.

*– У савецкія часы пра гэтых людзей на Радзіме не ўзгадвалі,* – кажа Ігар Мельнікаў. – *Пазней рабіліся спробы даследаваць гэтую праблематыку. Выйшла некалькі кніг, публікаваліся артыкулы, аднак з імі ў асноўным знаёміліся адмыслоўцы, а тэма заставалася па-за ўвагай шырокіх слаёў беларускага грамадства.*

*Сённяшнім беларусам варта зразумець, што лёс беларускіх жаўнераў арміі Андэрса і дэсантнікаў брыгады Сасабоўскага — гэта важная і неад'емная старонка вайсковай гісторыі Беларусі. Гераізмам гэтых людзей варта ганарыцца і памятаць тых, хто паклаў сваё жыццё і здароўе на алтар перамогі над нацызмам.*

Варта адзначыць, што кніга "Забытыя героі. Жаўнеры з Беларусі ў Другім польскім корпусе і Першай польскай асобнай паветрана-дэсантнай брыгадзе" багата ілюстравана здымкамі з калекцыі аўтара і з розных архіваў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**P.S.** *Прэзентацыя новай кнігі Ігара Мельнікава адбудзецца ў бізнес-клубе "Імагуру" (Мінск, вул.Фабрыцыуса, 4, зала "Nordic") 14 лютага 2017 года ў 18.30. Уваход вольны.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Выше Бога?

Много уже было высказано по поводу «Большого разговора с Президентом». Очень много. Но там была одна фраза Александра Лукашенко, которую никто так и не прокомментировал.

А зря.

Сказано было о том, что смертную казнь в стране он и рад был бы отменить, но не может. Потому что такое решение принял народ на референдуме. И сегодня те, кто тогда ратовал за смертную казнь, громче всех требуют ее отменить. А как ее отменишь?

Тут сразу несколько вопросов встает.

Первый вопрос. Кто все-таки в тот момент уговаривал Александра Григорьевича вставить в вопросы референдума пункт о смертной казни? Напомню: речь идет о референдуме 1996 года, куда вопрос о возможной отмене высшей меры наказания попал, что называется, на закуску. Так сказать, для разогрева общего накала страстей. А вот последствия затронули всю страну, ибо фактически по вине этих людей Беларусь лишили статуса спецприглашенного в Совет Европы государства. И, судя по заявлению главы этого самого государства, люди эти сохраняют возможность время от времени давать ему советы или что-то предлагать. Вот с этого момента, если можно, поподробнее. Кто же у нас таким вредительством занимался и статус свой с 1996 года сохранил? Михаил Владимирович Мясникович, что ли? Не знаю. Лидия Михайловна Ермошина? Виктор Владимирович Шейман? Ну? Дайте ответ любопытствующему телезрителю.

Второй вопрос. Если мне память не изменяет, тогда, в 1996 году, президент принял решение согласиться на рекомендательный характер референдума в обмен на прекращение Конституционным судом процедуры импичмента. Конституционный суд процедуру импичмента, насколько я помню, прекратил (насколько это было законно – профессору Пастухову судить, не мне, но факт явно налицо). Не значит ли это, что должен действовать и альтернативный процесс – то есть по крайней мере по данному пункту опросного листа власть вполне могла бы сделать вид, что решение рекомендательным и является? И до тех пор, пока в следующий раз народ свою волю не изъявит, президент накладывает мораторий на приведение смертных приговоров в исполнение. Возможно ли это?

С моей точки зрения – вполне возможно. С точки зрения Александра Лукашенко – нет.

И вот, как я понимаю, почему.

Александр Лукашенко всегда действует решительно и не сомневаясь в правильности принятого ранее решения лишь тогда, когда он сам не подвергает это решение сомнению. Его правота в собственных глазах носит высший, почти божественный характер. Этой правотой заражаются и его подчиненные. Вернее, не заражаются, а прячутся за нее, прикрываются ею – и в будущем, вероятно, вплоть до Страшного суда, где каждому из нас придется отвечать за дела свои, будут прикрываться: мол, не сами, не сами мы все эти безобразия творили – он нас послал!

В этой пирамиде, где высшая воля руководителя воспринимается как единственная легитимация всей системы решений, малейшее публичное сомнение в правоте вождя вызывает полный и немедленный обвал. А поскольку сомневаться может или отморозок-еретик (читай: оппозиционер), или сам вождь, то попытка Александра Григорьевича пересмотреть свое решение будет воспринято всей чиновничьей пирамидой как руководство к действию. И от здания, которое Лукашенко возводил согласно собственному пониманию и потребностям, камня на камне не останется.

Что означает пересмотреть решение, принятое на совершенно манипулятивном референдуме, проводившемся вопреки решению Конституционного суда, после насильственного изгнания главы Центризбиркома и замены его неизвестно кем, действующей по неизвестно какому праву, решение, носящее рекомендательный, а не обязательный характер? Это означает сказать вслух: я – не президент!

Тогда – кто? Не «кто президент», а «кто Александр Лукашенко»?

Единственный ответ до сих пор на этот вопрос был дан на памятном селекторном совещании брестским «губернатором» Константином Сумаром. Лукашенко тогда, точно оправдываясь, сказал:

– Я же не Бог!

Но брестский губернатор, устами которого в данном случае глаголила, вероятно, истина, ответствовал:

– Вы – выше!

Это Бог дал – Бог и взял. А в данном конкретном случае Александр Лукашенко смертную казнь не вводил. Не ему ее и отменять. Он же честно сказал:

– Я не Бог.

Не Бог он. Хотя и выше.



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Жанна ПЦІЧКІНА:

# «У снах Ігар прыходзіць да мяне і супакойвае...»

*Маці маладога чалавека, які памёр у СІЗА, распавяла "Народнай Волі", як страціла сына.*

– Прайшло ўжо тры з паловай гады, як не стала Ігара, – *уздыхае Жанна Уладзіміраўна і выцірае слязінкі з вачэй.* – Ён быў маладзейшы за сваю сястру Ірыну на чатыры гады, і характары ў іх абсалютна розныя. У Іры больш складаны характар, як кажуць, выбуховы, а Ігар – вельмі добры і спакойны. Памятаю, у дзяцінстве ён шмат плакаў, лёгка было пакрыўдзіць. Калі сыну было шэсць гадоў, памёр муж. Ігар бачыў, як нялёгка мне даводзілася, таму ў 16 гадоў пайшоў працаваць на Трактарны завод.

**– Даволі рана стаў дарослым...**

– А што было рабіць? Яму прапанавалі падчас летніх школьных канікул месячную падпрацоўку на заводзе. Спадабалася, ён і застаўся там. Гэта было такое своеасаблівае ўступленне ў дарослае жыццё, з'явіліся свае грошы... Я на адной фірме прыбіральшчыцай працавала, дык ён і там дапамагаў. Бачыў жа, як маці даводзіцца. Ды і сам стараўся не стаяць на месцы, шукаў новыя варыянты работы. Пазней уладкаваўся на фірму, зарабляў там на старыя грошы каля 10 мільёнаў у месяц.

**– Сын любіў кампаніі?**

– Ён быў душой кампаніі, дзяўчына ў яго была. Я б не сказала, што вельмі ўжо цягаўся па вуліцы, але ж у 18–20 гадоў увесь час таксама дома сядзець не будзеш. Аднойчы нават штраф міліцыя выпісала за тое, што іх кампанія гучна сябе паводзіла. Але сябры Ігара нярэдка да нас прыходзілі, фільмы глядзелі.

**– У 2013 годзе Ігара асудзілі на тры месяцы адміністрацыйнага арышту за тое, што парушыў рашэнне суда аб пазбаўленні права кіравання транспартным сродкам на працягу 5 гадоў...**

– Сын вельмі любіў машыны, пасведчанне ў ДАІ атрымаў праз тры дні пасля таго, як стаў паўнагадовым. А ў 2011 годзе яго пазбавілі права кіравання аўтамабілем (выпіў і сеў за руль). Праз два гады і тры месяцы Ігар са сваёй дзяўчынай ехалі на машыне, Ганна была за рулём. Але надвор'е было такое дрэннае, што аўто занесла ў снег, і сын вымушаны быў сам сесці за руль. І адразу даішнікі спынілі. У выніку – прысуд: тры месяцы адміністрацыйнага арышту. Мог заплаціць і штраф, але на той час такіх грошай (80 мільёнаў рублёў) у нас не было. Вечарам 30 ліпеня разам з дачкой праводзіла Ігара ў РУУС, склалі сумку і прадукты... Больш я сына жывым не бачыла.

**– Як вы даведаліся, што ён памёр?**

– 4 жніўня мне патэлефанавалі з СІЗА №1 і паведамілі, што Ігар мёртвы. Маўляў, сэрца ў яго спынілася. Я пачала крычаць у трубку: "Гэтага не можа быць, вы яго забілі!.." У мяне ў галаве не ўкладвалася – як мог памерці ад сардэчнай недастатковасці 21-гадовы здаровы хлопец, які на тое самае сэрца ніколі не скардзіўся і наогул амаль не хварэў?! Высокі, моцны, ці мог ён памерці вось так?! Калі ж я ўбачыла Ігара ў моргу – ледзь прытомнасць не страціла. Сын ад сінякоў быў амаль чорны. Пасля ўжо нам сказалі, што, маўляў, у яго была наркатычная ломка, а таму хлопца давялося супакойваць...

Ужо на наступны дзень мы забралі Ігара з морга і праз дзень пахавалі. Дарэчы, са мной працуе адзін былы міліцыянер, і ён, калі даведаўся пра ўсю гэтую сітуацыю, сказаў, што не трэба было забіраць цела і хаваць як мага хутчэй. Трэба было дабівацца правядзення паўторнай экспертызы.

**– Ці ведалі вы, што Ігар захапляўся наркотыкамі?**

– Гэта ж праваахоўнікі распаўсюдзілі такую інфармацыю, хаця, мяркую, у ізалятары ў яго наогул ніякай ломкі не было, а ўсё было сказана, каб толькі абяліць сябе. Я не скажу, што сын быў, што называецца, анёл. Так, здаралася, што выпіваў. Я сама веруючы чалавек, не ўжываю алкаголь і сына заўсёды настаўляла на правільны шлях. Ён казаў мне так: "Мама, я ж не пад плотам, як алкашы, валяюся. Выпіваю, як і ўсе". А вось пра наркотыкі – гэта было для мяне адкрыццё. Ніколі не бачыла я нейкіх слядоў ад уколаў на яго руках, дзяўчына мяне таксама запэўнівала, што не было такога. Таму я не веру ў такія "версіі", няхай яны іх пакінуць пры сабе. А асуджаны турэмны ўрач на судзе і наогул заявіў, што Ігар увесь час маўчаў у камеры, калі да яго прыйшлі медыкі. Пасля гэтага быццам бы яго прывязалі да ложка, так ён і памёр у маўчанні. Дык што ён мог патрабаваць, калі маўчаў? Якая магла быць ломка? І за што было так збіваць, што на чалавеку жывога месца не засталося?! Гэта што, у мірны час пабудавалі лагер для адмысловых катаванняў людзей? Мне вось гэта незразумела. Як такое можа адбывацца ў XXI стагоддзі? Там што, нейкія вырадкі працуюць, у якіх сваіх дзяцей няма?

**– Кажуць, што маці заўсёды адчуваюць надыходзячую бяду. У вас напярэдадні не было дрэннага прадчування?**

– Пасля таго, як 30 ліпеня адвезла Ігара ў міліцыю, вырашыла паехаць у вёску на сваёй машыне. Каб было весялей, узяла ў дарогу сабе спадарожнікаў. За некалькі кіламетраў ад вёскі на дарогу выбягае маладая казуля ды як скокне мне прама на капот. Абышлося ўсё толькі пагнутым капотам, але я, калі ўжо прыехала, нават расплакалася. Кажу маме: "Гэта не проста так казуля скокнула, нешта дрэннае будзе". Тая: "Не хвалюйся, нічога страшнага няма". А на наступны дзень і сама мне сон расказвае. Маўляў, малады чорны жарабец капытам у акно біў. І мы тады зрабілі выснову: нешта здарыцца. Праз два дні мне паведамілі, што Ігара больш няма...

**– Як вы трымаліся ўсе гэтыя гады?**

– Плакала пастаянна, першы год пасля смерці сына штодзень была на могілках. Некалькі разоў Ігар прыходзіў да мяне ў сне. Прыйдзе, па валасах пагладзіць і кажа: "Мамачка, у мяне ўсё добра, беражы сябе". Прачыналася ўся ў слязах...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАМПЕТЭНТНА

Юрыст Павел САПЕЛКА:

# «Калі сказалі «А», то трэба казаць і «Б»

*Блізкія Ігара Пцічкіна, які памёр у следчым ізалятары, патрабуюць ад дзяржавы і турэмнага фельчара кампенсацыю ўпамеры больш за 100 тысяч долараў.*

14 лютага ў судзе Заводскага раёна Мінска адбудзецца папярэдняе пасяджэнне па іску маці і сястры **Ігара Пцічкіна** да Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі, галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў і былога медыцынскага работніка СІЗА **Аляксандра Крылова.**

Нагадаем перадгісторыю. У маі 2013 года суд Заводскага раёна Мінска прыгаварыў 21-гадовага Ігара Пцічкіна да трох месяцаў адміністрацыйнага арышту за тое, што ён кіраваў аўтамабілем, будучы пазбаўленым пасведчання вадзіцеля. У канцы ліпеня маладога чалавека накіравалі ў СІЗА №1, а праз некаторы час супрацоўнікі ізалятара паведамілі сваякам, што Пцічкін памёр ад сардэчнага прыступу.

Пазней следства інфармавала: маўляў, маладога чалавека шпіталізавалі, таму што ў яго сталі выяўляцца і нарастаць прыкметы вострага псіхічнага расстройства. Пцічкін нібыта сістэматычна ўжываў алкаголь і курыльныя сумесі з наркатычнымі і псіхатропнымі рэчывамі.

Амаль тры гады спатрэбілася маці Ігара, каб з дапамогай праваабаронцаў дамагчыся ўзбуджэння крымінальнай справы за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў фельчарам медчасці СІЗА №1, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента.

– У выніку фельчар быў прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення, – распавядае юрыст **Павел САПЕЛКА**. – Крылоў прызнаны вінаватым у неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, што прывяло да смерці Пцічкіна. Але зараз маці і сястра загінуўшага хлопца з дапамогай праваабаронцаў падрыхтавалі іск, каб атрымаць кампенсацыю за нанесены маральны і матэрыяльны ўрон. Агулам сума складае каля 103 тысяч долараў, хаця, натуральна, яны не вельмі спадзяюцца на поўнае задавальненне сваіх патрабаванняў.

**– Нягледзячы на тое, што ў гэтай справе знойдзены вінаваты фельчар, які ўжо асуджаны, па факце нанясення цялесных пашкоджанняў Ігару Пцічкіну прызначана дадатковая праверка...**

– Так, суд пакараў фельчара калоніяй-пасяленнем тэрмінам на тры гады, але пазней Мінскі гарадскі суд зменшыў пакаранне да 2 гадоў і 10 месяцаў. Блізкія Ігара, натуральна, не згодны з такім мяккім прысудам, і зараз просяць ад старшыні Мінгарсуда прынесці пратэст на прадмет мяккасці пакарання Крылову. На наш погляд, не ўсе абставіны, якія робяць віну фельчара больш цяжкай, былі ўлічаны пры вынясенні прысуду. І гэтыя абставіны даведзены да старшыні Мінскага гарадскога суда.

Акрамя таго, Жанна Пцічкіна, маці загінуўшага хлопца, атрымала адказ на сваю паўторную скаргу ў пракуратуру Маскоўскага раёна Мінска. Жанчына прасіла пераглядзець пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце прычынення цялесных пашкоджанняў у перыяд знаходжання ў СІЗА №1 г.Мінска яе сыну, які неўзабаве памёр у выніку неналежнага аказання медыцынскай дапамогі. Яна не выключае, што шматлікія сінякі на целе сына з'явіліся ў выніку службовага злачынства супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, якое выявілася ў злоўжыванні ўладай. І вынік ужо ёсць – пракуратура ініцыявала дадатковую праверку па факце прычынення цялесных пашкоджанняў.

**– Вы сказалі, што блізкія Ігара Пцічкіна не вельмі спадзяюцца на поўнае задавальненне сваіх іскавых патрабаванняў. Чаму?**

– Мне падаецца, што спрэчка паміж істцамі і адказчыкамі пойдзе ў асноўным вакол кампенсацыі маральнага ўрону, які маці і сястра загінуўшага ацанілі кожная па 100 тысяч рублёў (прыкладна па 50 тысяч долараў). Але, на жаль, у нас судовая практыка такая, што дзяржава пакуты людзей, якія звязаны са стратай блізкага чалавека, ацэньвае не вельмі вялікімі сумамі. Хаця ў гэтай сітуацыі, калі сказалі "А", прызнаўшы віну супрацоўніка СІЗА, то трэба казаць і "Б" – выплаціць кампенсацыю.

У ІХ І Ў НАС

# Параўнаем заробкі і кошт паслуг ЖКГ

Не першы раз за апошні час улады спрабуюць пераканаць беларусаў у тым, што яны мала плацяць за камунальныя паслугі. Пасля «Вялікай размовы з Прэзідэнтам» дзяржаўныя СМІ надрукавалі чарговую параўнальную табліцу коштаў на паслугі ЖКГ у Мінску і ў сталіцах бліжэйшых краін. "Жыроўкі" мінчан, зразумела, "худзейшыя", чым у жыхароў Масквы ці Варшавы. Але лічбы – рэч адносная. Бо калі супаставіць затраты на камуналку з заробкамі, то атрымліваецца, што пасля разлікаў з камунальшчыкамі ў тых жа масквічоў альбо жыхароў Варшавы ці Берліна застаецца на руках больш грошай, чым у мінчан пасля атрымання месячнага заробку.

На пачатку гэтага года ў беларускай інтэрнэт-прасторы падобны ўкід ужо здараўся: камунальшчыкі распаўсюдзілі інфаграфіку, з якой вынікала, што беларусы выдаткоўваюць на паслугі ЖКГ 11% сваёй зарплаты, у той час як у Польшчы гэтая лічба складае 25%, у Літве – 35%, у Расіі – 17%. Журналісты і эксперты адказалі на такую статыстыку іншай – падлічылі, што 25% ад зарплаты паляка – гэта 262 долары. Па беларускіх мерках – зашмат, ледзь не дзве трэці ўсёй зарплаты беларуса. Але калі адняць гэтыя «рабаўніцкія» сумы з сярэдняй зарплаты палякаў, то ў іх яшчэ застаецца 788 долараў. Тое самае і з расіянамі: 17% ад іх зарплаты – гэта каля 85 долараў, аднімаем іх ад сярэдняга заробку расіян у 527 долараў – і застаецца 442 долары. А ў беларуса па формуле «сярэдні заробак мінус камунальныя плацяжы» выходзіць усяго 329,3 долара!

Як суадносяцца камунальныя плацяжы з заробкамі ў жыхароў сталіц блізкіх да нас краін, чытачы могуць вылічыць самі, скарыстаўшыся той самай табліцай, якую надрукавала самая масавая дзяржаўная газета паводле дадзеных інтэрнэту.

## Кошт паслуг ЖКГ у дол.США/бел.руб.

| Від расходаў | МІНСК (пры сярэдняй зарплаце 555,29 долара) | МАСКВА (пры сярэдняй зарплаце 1116,7 долара) | КІЕЎ (пры сярэдняй зарплаце 333,94 долара) | ВІЛЬНЮС (пры сярэдняй зарплаце 620,65 долара) | ВАРШАВА (пры сярэдняй зарплаце 1440 долараў) | БЕРЛІН (пры сярэдняй зарплаце 4150 долараў) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Водазабеспячэнне, за 1 куб.м | 0,27<br>0,5301 | 0,55<br>1,08 | 0,25<br>0,5 | 1,33<br>2,60 | 2,77<br>5,43 | 2,14<br>4,19 |
| Водаадвядзенне, за 1 куб.м | 0,18<br>0,354 | 0,39<br>0,77 | 0,26<br>0,5 | 1,33<br>2,60 | 1,59<br>3,12 | 2,60<br>5,09 |
| Гарачае водазабеспячэнне, за 1 куб.м | 0,71<br>1,38247 | 2,73<br>5,34 | 2,84–3,08<br>5,57–6,04 | 4,43<br>8,68 | 2,57<br>5,04 | 2,89<br>5,66 |
| Цеплазабеспячэнне, за 1 Гкал | 7,96<br>15,6 | 35,08<br>68,75 | 52,53<br>102,94 | 105,00<br>205,77 | 61,00<br>119,54 | 68,44<br>134,12 |
| Тэхнічнае абслугоўванне жылфонду, за кв.м | 0,05<br>0,1 | 0,39<br>0,77 | 0,11–0,12<br>0,21–0,23 | 0,21<br>0,41 | 0,53<br>1,04 | Аплата фактычна праведзеных работ па дагаварной цане, кошт залежыць ад тэхнічнага аснашчэння дома і набору работ |
| Карыстанне ліфтам, за 1 чал. | 0,61<br>1,19 | Уключана ў тэхнічнае абслугоўванне жылфонду | | | | |
| Збор, вываз і абясшкоджванне цвёрдых камунальных адходаў, за 1 куб.м | 2,94<br>5,76 | Уключана ў тэхнічнае абслугоўванне жылфонду | | 16,19<br>31,72 | 28,93<br>56,70 | 17,65<br>34,59 |

МЫСЛИ ВЕЛИКИХ МУДРЕЦОВ

*– Сила правительства держится на невежестве народа, и оно знает это и потому всегда будет бороться против просвещения. Пора нам понять это.*

**Л.Н.ТОЛСТОЙ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Польская кніга на выставе ў Мінску

У Нацыянальным выставачным павільёне «Белэкспа» гэтымі днямі праходзіць XXIV Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш. Сярод шматлікіх паліц з кнігамі ёсць на выставе і польскі стэнд. Яго прэзентуе Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі і Польскі інстытут у Мінску.

*"Гандлёвая частка стэнда прапануе для набыцця найцікавейшыя кнігі з Польшчы, а таксама кнігі польскіх аўтараў у перакладзе на беларускую і рускую мовы,* – расказвае **Марцін Вайцяхоўскі**, першы саветнік польскай амбасады. – *Падрыхтаваны і шэраг сустрэч з сучаснымі аўтарамі".*

8-12 лютага 2017 г. Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа», пр. Пераможцаў, 14
ПОЛЬСКІЯ КНІГІ
на XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы
UNIBEP
ПЯТНІЦА 10 лютага 16:00 - 17:00 Польскі стэнд
Аўтограф ад перакладчыкаў
Сэлфі са Знахарам
#znacharBY
СУБОТА 11 лютага 14:00 - 15:00 Канферэнц-зала
ПРЭМ'ЕРА!
Фларыян Чарнышэвіч «Надбярэзінцы»
Прэзентацыя беларускага перакладу раману
НАДБЯРЭЗІНЦЫ
СУБОТА 11 лютага 10:00 - 11:00 Канферэнц-зала
Упершыню ў Мінску
Знакаміты польскі пісьменнік-фантаст
Яраслаў Гжэндовіч
з прэзентацыяй сваёй творчасці
НЯДЗЕЛЯ 12 лютага 12:00 - 13:30 Дзіцячая пляцоўка Нацыянальнага стэнда Беларусі
Мастацкі майстар-клас для дзетак (6-12 гадоў)
«Я ЗВЯРОК»
Праводзе ілюстратарка дзіцячых кніг Моніка Ханувляк (Польшча)

Для тых, хто цікавіцца польскай літаратурай, супрацоўнік амбасады нагадвае, што ў межах выставы сёння, 10 лютага, з 15.00 да 16.00 адбудзецца сустрэча і аўтограф-сесія з **Анатолем Бутэвічам** – аўтарам перакладу на беларускую мову рамана **«Непераможны»** польскага пісьменніка-фантаста **Станіслава Лема**. У суботу, 11 лютага, прыхільнікаў польскай прозы чакае яшчэ адна аўтарская сустрэча – з **Яраславам Гжэндовічам** (з 10 да 11.00) – адным з самых папулярных сучасных польскіх пісьменнікаў-фантастаў. А з 14.00 да 15.00 будзе праходзіць прэзентацыя беларускамоўнага выдання кнігі **Фларыяна Чарнышэвіча «Надбярэзінцы»** – авантурнай меладраматычнай эпапеі пра драматычны лёс жыхароў шляхецкіх засценкаў на землях паміж Бярэзінай і Дняпром у 1911–1920 гадах.

У апошні дзень выставы – 12 лютага польскі бок запрашае на сустрэчу (з 12.00 да 13.30) з мастаком дзіцячых кніг **Монікай Хануляк** у рамках прэзентацыі польскага выдавецтва «Wytwórnia» і мастацкім майстар-класам для дзетак 6–12 гадоў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

